РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 63 (7876) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 16 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

У РАЙВЫКАНКАМЕ

## УСЕ РАБОТЫ – У КОМПЛЕКСЕ

12 і 13 жніўня старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў, намеснікі старшыні райвыканкама, кіраўнікі тэхналагічных груп наведалі калгасы, дзе правяралі арганізацыю ўборкі збожжавых культур, нарыхтоўкі кармоў на зіму, падрыхтоўкі да асенняй сяўбы, цікавіліся іншымі пытаннямі. У панядзелак, 14 ліпеня, адбылося чарговае пасяджэнне раённага штаба па правядзенню жніва, на якім разгледжаны факты, што былі ўскрыты ў гаспадарках напярэдадні. Вёў яго М. Р. Барысаў.

Як адзначалася, пакуль нездавальняюча арганізавана ўборка кукурузы на сілас амаль ва ўсіх калгасах, за выключэннем некаторых. Гэта праблема – адна з першачарговых і вырашэнне яе вызначае далейшае развіццё жывёлагадоўлі ў раёне, вытворчасці мяса і малака, а, значыць, і ўмацаванне эканомікі, стабільную выплату зарплаты калгаснікам. Гаспадаркі вырасцілі кукурузу сёлета на значна большай плошчы, чым у мінулым годзе. Ёсць шанц нарыхтаваць сакавіты корм. Трэба толькі сканцэнтраваць сіласаўборачную тэхніку, транспартныя сродкі, мабілізаваць людзей.

Райсельгасхарч праявіў ініцыятыву — прапанаваў стварыць на базе абсблугоўваючых арганізацый горада механізаваныя атрады. Сюды павінны быць накіраваны іх тэхніка і людзі, а таксама калгасаў. Арганізавана 5 міжгаспадарчых мехатрадаў, якія практычна прыступілі да работы. Праўда, вынікі яе розныя.

Станоўчую ацэнку першага намесніка старшыні райвыканкама, начальніка сельгасупраўлення Віталя Грышанава атрымала арганізацыя ўборкі кукурузы, якую вядзе механізаваны атрад ПМС у калгасе "Ленінскі шлях". Усяго задзейнічана звыш 10 адзінак уборачных машын. Прадукцыйнасць іх высокая. Па словах дырэктара меліярацыйнага прадпрыемства Пятра Білань, за апошні дзень было нарыхтавана 500 тон сіласнай масы. Гэта не адзіны прыклад выніковасці.

Аналізуючы вынікі іншых мехатрадаў, В. Л. Грышанаў заўважыў, што ніжэй сваіх магчымасцей працуе такое фарміраванне ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга". Бываюць зрывы ў сувязі з узнікаючай няспраўнасцю здрабняльніка і транспартных сродкаў. Да таго ж палавіна машын не пастаўлена гаспадаркамі ў гэты мехатрад. Дырэктар таварыства Міхаіл Патапенка даў свае тлумачэнні на пасяджэнні штаба. Яму загадана актывізаваць работу механізатараў, неадкладна прыступіць да закладкі сіласу калгасу "Расія". Сховішча ёмкасцю 1 тысяча тон павінна быць запоўнена зялёнай масай у кароткі тэрмін і па тэхналогіі.

На рахунку механізаванага атрада "ПМК-90" яшчэ ніводнай тоны кукурузнага сіласу. Не вырашанымі засталіся некаторыя пытанні, звязаныя з арганізацыяй працы, прадастаўленнем фронту работы. Былі выказаны заўвагі не толькі ў адрас кіраўніцтва ПМК-90, а і акцыянернага таварыства райсельгасхіміі. Паколькі вялікімі здабыткамі па кормавытворчасці яно пахваліцца не можа.

Словам, кіраўнікам пералічаных арганізацый, а таксама калгасаў, саміх мехатрадаў трэба прыняць вычарпальныя меры па ўзмацненню тэмпаў уборкі кукурузы. Інакш проста не хопіць часу для таго, каб выканаць вялікі аб'ём работ поўнасцю. Не выпадкова, на наступную планёрку ў райвыканкам было прапанавана выклікаць начальнікаў мехатрадаў і некаторых старшынь калгасаў.

Безумоўна, самая галоўная задача зараз – арганізавана завяршыць уборку збожжавых культур. Цяжкасцей і перашкод тут нямала. Па раёну абмалочана збожжа на 52 працэнтах плошчы. Застаюцца ў полі яравыя на некалькіх тысячах гектараў. Вельмі важна зараз максімальна выкарыстаць рабочы час, дабіцца высокай выпрацоўкі кожнага ўборачнага агрэгата. Асабліва гэта датычыць збожжавых камбайнаў. Механізатары павінны без прамаруджвання выязджаць у поле, не губляць дарэмна часу. А негатыўныя прыклады ёсць. Таму старшыня райвыканкама даручыў сваім намеснікам зноў выехаць у калгасы, вывучыць абстаноўку на месцах і потым далажыць аб гэтым на раённым штабе.

Што датычыць сяўбы азімых культур, паралельна з падрыхтоўкай глебы, унясеннем усіх відаў угнаенняў дадзена каманда разгортваць усюды самую сяўбу. Практыка сведчыць, што раннія пасевы найбольш ураджайныя ў параўнанні з іншымі. У сувязі з гэтым варта своечасова выслабаніць плошчы пад азімыя, занятыя папярэднімі культурамі. Але не ўсе гаспадаркі хутка ўбіраюць салому з-пад камбайнаў з палёў. Як заўважана, гэта работа ідзе марудна ў калгасе "Радзіма" і некаторых іншых гаспадарках.

Сціплыя запасы мінеральных угнаенняў у райсельгасхіміі. Патрэбны фінансавыя сродкі, каб іх набыць на прадпрыемствах. Калгасы, як зацікаўленыя асобы, павінны паклапаціцца аб аплаце.

Як бачна, будучае сельскагаспадарчай галіны, ды і ўсяго раёна сёння вырашаецца на пярэднім краі барацьбы за хлеб і дабрабыт – у калгасах. Бітву трэба выйграць абавязкова, дастойна.

На пасяджэнні закраналіся пытанні вытворчасці малака, пераадолення адставання некаторых калгасаў, а таксама ўборкі яблыкаў у калгасных садах, рэалізацыі пладоў. У пасяджэнні штаба ўдзельнічалі кіраўнікі сілавых структур.

Выбары-2000

## Зарэгістраваны ініцыятыўныя групы

Адбылося чарговае пасяджэнне акруговай выбарчай камісіі Касцюковіцкай выбарчай акругі № 68 па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Вёў яго намеснік старшыні гэтай камісіі Станіслаў Баранаў.

Разгледжана пытанне аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп грамадзян па збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асоб, прапаноўваемых для вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты, і правядзення агітацыі за іх выбранне. Даклад зрабіў намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Станіслаў Баранаў.

Ён сказаў, у прыватнасці, што ў акруговую выбарчую камісію паступіла заява Яўгена Анатольевіча Барысевіча, у якой ён просіць зарэгістраваць ініцыятыўную групу па збору подпісаў выбаршчыкаў для вылучэння яго кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў парламента краіны па Касцюковіцкай выбарчай акрузе № 68. Я. А. Барысевіч нарадзіўся ў 1949 годзе, зараз жыве ў г. Клімавічы, працуе дырэктарам тутэйшага сельскагаспадарчага тэхнікума. Беспартыйны. Па спецыяльнасці юрыст, інжынер-механік.

У саставе гэтай ініцыятыўнай групы звыш 20 грамадзян, з якіх 4 чалавекі – жыхары Касцюковіцкага раёна. Кіруе групай Аляксандр Канстанцінавіч Савіцкі, жыхар Клімавіч.

Другая група грамадзян выступіла з ініцыятывай па збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку Валянціна Раманавіча Сімірскага, які прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па нашай Касцюковіцкай выбарчай акрузе. В. Р. Сімірскі – выкладчык, юрыст, памочнік намесніка старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, генеральны дырэктар Швейцарскага прадстаўніцтва АТ "Нелант". Ён 1946 года нараджэння, жыве ў Мінску.

У складзе ініцыятыўнай групы – прадстаўнікі нашага раёна Т. І. Дашкевіч, А. А. Круцько, С. Л. Старавойтава, Н. Р. Фралова, В. А. Раманава, Ж. С. Юдзін, Т. А. Таўпека, Л. П, Шыпава, В. В. Бурака.

Разгледзеўы заявы Я. А. Барысевіча, В. Р. Сімірскага, спісы ініцыятыўных груп, акруговая выбарчая камісія прыняла адпаведнае рашэнне. Яна зарэгістравала ініцыятыўныя групы па збору подпісаў у падтрымку асоб, якія прапаноўваюцца для вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, і правядзення агітацыі за іх выбранне. Былі дадзены неабходныя рэкамендацыі па збору подпісаў выбаршчыкаў і афармленню падпісных лістоў згодна з артыкулам 65 Выбарчага кодэкса.

## ДОШКА ГОНАРУ

**На ўборцы збожжавых лепшых вынікаў па стану на 14 жніўня дабіваюцца:**

Экіпаж у складзе **ГРАКАВЫХ Сяргея Аляксандравіча** і яго брата **Уладзіміра Аляксандравіча** з калгаса "Парыжская камуна", які на камбайне "Дон-1500" намалаціў з пачатку жніва 464 тоны зерня.

Другое месца ў спаборніцтве па намалотах займае экіпаж з калгаса "Дуброва"у складзе **БАЛДУЕВА Вячаслава Віктаравіча і АРЛОВА Віктара Міхайлавіча**, які на камбайне "Дон-1500" намалаціў 459 тон.

Па 398 тон зерня на рахунку экіпажаў у складзе **ЗАПЕКІНА Віктара Віктаравіча і ЮРКОВА Юрыя Адамавіча** з калгаса "Дуброва", **ЛАХЦІКАВА Пятра Аляксандравіча і МЯКЕНЬКАГА Аляксандра Пятровіча** з калгаса "Парыжская камуна".

378 тон намалаціў экіпаж з калгаса "Парыжская камуна" ў складзе **ЛАХЦІКАВА Анатоля Аляксандравіча** і **ГРУЗІНАВА Сяргея Аляксандравіча.**

**На перавозцы збожжа вызначаюцца:**

**БОНДАРАЎ Эдуард Мікалаевіч** з калгаса "Прагрэс", які на аўтамашыне МАЗ-5551 перавёз з пачатку ўборкі 600 тон збожжа.

**ПАТАПЕНКА Віталь Іванавіч** з калгаса "Дуброва", які на аўтамашыне ГАЗ-53 перавёз 518 тон.

454 тоны збожжа на аўтамашыне "ЗІЛ-130" перавёз **ПАРШЫКАЎ Мікалай Сцяпанавіч** з калгаса "Радзіма".

**КАЗАКОЎ Аляксандр Фёдаравіч** з калгаса "Новы быт", які на аўтамашыне "Урал" перавёз 432 тоны.

Чалавек і яго справа

**Віталь Патапенка сваё жыццё прысвяціў вадзіцельскай справе. І ўжо дзесяць гадоў працуе ў родным калгасе "Дуброва". Ёсць вопыт, уменне, а, галоўнае, працавітасць. Яго аўтамашына не ведае прастояў. Не першы год удзельнічае ён і ва ўборцы збожжавых. Вось і сёлета добра падрыхтаваў Віктар свой ЗІЛ-130 да перавозкі зерня, каб не страціць ніводнага. З першых жа дзён ён ідзе ў ліку першых па колькасці перавозімага збожжа. На яго рахунку ўжо больш 500 тон перавезенага хлеба.**

**На здымку: Віталь ПАТАПЕНКА.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Без затрымак

Гаспадаркі раёна, разам з уборкай, актыўна вядуць продаж збожжа дзяржаве. Яго на ААТ "Касцюковіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства" паступіла ўжо 4960 тон, або 58 працэнтаў да плана. Больш за іншых паступіла зерня з калгаса "Дуброва", "Парыжская камуна", "Новы быт" — адпаведна 325, 352 і 256 тон.

— З названых гаспадарак, і асабліва з калгаса "Прагрэс", — гаворыць дырэктар прадпрыемства Міхаіл Пацёмкін, — паступае зерне добрай якасці. Яно не патрабуе дадатковай апрацоўкі.

Трэба заўважыць, што акрамя 70-ці тон жыта харчовага коштам 90 тысяч рублёў за тону, за нехарчовае гаспадаркі атрымаюць па 72 тысячы рублёў за тону.

У гэтыя дні цэнтравывазам пачалі завозіць ячмень і авёс (пшаніцу прымае Клімавіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства). Прыёмка збожжа арганізавана кругласутачна. Заслуга ў гэтым многіх работнікаў, сярод якіх – Андрэй Козыраў, прыкамандзіраваны з райсельгасэнерга і забяспечвае работу зернесушылкі ЗСПЖ-8, лабарантка Тамара Анціпенка, старшыя майстры вытворчага ўчастка Валянціна Раўкоўская, Алена Венгерава, рабочая Надзея Лебедзева.

**Віктар ЦІХАНАЎ.**

## Звесткі

**аб уборцы збожжавых у калгасах раёна па стану 14 жніўня г.г. Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – убрана збожжавых (у працэнтах да плана), трэцяя – ураджайнасць (цнт. /га)**

| | | |
|---|---|---|
| "Дуброва" | 78,7 | 26,9 |
| "Прагрэс" | 78,2 | 18,2 |
| "Радзіма" | 68,7 | 21,2 |
| "Лен. шлях" | 65,2 | 17,2 |
| "Новы быт" | 60,5 | 16,1 |
| "Пар. камуна " | 59,1 | 22,5 |
| "Расія" | 50,6 | 15,9 |
| "Забычанне" | 48,1 | 17,5 |
| "Новае жыццё" | 45,5 | 23,8 |
| імя К. Маркса | 44,2 | 17,5 |
| "Смолькі" | 40,8 | 17,6 |
| "Кранштат" | 37,7 | 17,7 |
| "Праўда" | 32,4 | 18,4 |
| "Бароньκі" | 30,2 | 17,0 |
| імя Калініна | 22,3 | 21,6 |
| **ПА РАЁНУ:** | **52,0** | **19,7** |

АДЗІНЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДЗЕНЬ

# Лепшае лячэнне — прафілактыка

На мінулым тыдні ў раёне прайшоў Адзіны дзень інфармавання насельніцтва. Згодна з распрацаваным графікам работы, інфармацыйна-прававыя групы райвыканкама наведалі працоўныя калектывы сяла і горада. Размова ў час сустрэч з людзьмі ішла аб рабоце мясцовых органаў улады па прафілактыцы правапарушэнняў і злачынстваў, п'янства і наркаманіі.

Прапануем чытачам некаторыя матэрыялы на гэтыя тэмы.

Як адзначалася, сур'ёзнай праблемай у любым грамадстве з'яўляецца рост злачыннасці. Яна набывае ўсё большыя маштабы і праяўляецца ў разнастайных формах. У апошні час наша рэспубліка сутыкнулася з такімі раней не тыповымі для сябе з'явамі, як наркаманія, таксікаманія, СНІД і іншыя. Не абышлі гэтыя беды і Касцюковіцкі раён. Ва ўсіх нас выклікае трывогу сітуацыя з падлеткавай злачыннасцю, п'янствам і іншымі антысацыяльнымі з'явамі. Патрэбны рашучыя меры па ўхіленню негатыўных фактаў. Як вядома, лепшае лячэнне (і прытым самае простае) любой хваробы – гэта прафілактыка.

Раённым выканаўчым камітэтам, сельскімі выканкамамі, адпаведнымі раённымі службамі рэгулярна праводзяцца мерапрыемствы па прававой адукацыі насельніцтва, прафілактыцы правапарушэнняў, алкагалізма і наркаманіі. У выніку зробленых дзяржаўнымі і праваахоўнымі органамі захадаў дасягнуты пэўныя поспехі ў барацьбе са злачыннасцю.

За першае паўгоддзе сёлета раскрыта 131 злачынства, з якіх 85 – цяжкіх. Не назіраецца росту падлеткавай злачыннасці. Не выяўлены выпадкі ўгону аўтатранспарту. У той жа час насцярожвае наступны факт. Больш як 70 злачынстваў было ўчынена непрацуючымі жыхарамі раёна. Прычым колькасць іх рэзка ўзрасла. Само сабой зразумела, што трэба актыўна ўцягваць беспрацоўных у карысную працоўную дзейнасць.

Склалася пэўная сістэма работы па прававому выхаванню вучнёўскай моладзі. Кожны квартал у школах праводзяцца лекторыі па прававой тэматыцы і здароваму ладу жыцця з выкарыстаннем нагляднай агітацыі і дэманстрацыяй кінафільмаў. У красавіку-маі былі праведзены гутаркі на тэмы: “Алкагалізм – бедства № 1”, “Наркаманія – крок у бездань”, “Закон і ты”. Удзельнічалі работнікі пракуратуры і камісіі па справах непаўналетніх. У чэрвені г.г. лектарская група райвыканкама арганізавала курс лекцый па антынаркаманійнай прапагандзе ў дзіцячых аздараўленчых лагерах. Сёлета вясной праводзіліся кінолекторыі на прававую тэматыку для старшакласнікаў горада з дэманстрацыяй дакументальных фільмаў аб падлеткавай злачыннасці. Пасля яе завяршэння было наладжана абмеркаванне ў школах на класных гадзінах.

З сакавіка 2000 года працуе кансультацыйны пункт пры натарыяльнай канторы. Ён аказвае неабходную дапамогу насельніцтву. Для работнікаў сельскіх Саветаў была наладжана вучоба, дзе разглядалася новае палажэнне аб натарыяльнай канторы.

Каардынацыйным саветам пры райвыканкаме было разгледжана пытанне “Аб выніках работы па рэалізацыі ў 1999 годзе мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю”. Справаздачу зрабілі начальнік РАУС Я. Л. Кастроў, начальнік аддзялення ДАІ А. Я. Лосеў, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх А. Д. Асташанка і іншыя зацікаўленыя асобы.

Значная работа па прававой прапагандзе і юрыдычнаму абучэнню грамадзян праводзіцца інфармацыйна-прававымі групамі, якія створаны пры райвыканкаме. У першым паўгоддзі абмяркоўваліся пытанні захавання законнасці, аховы правапарадку і ўзмацнення барацьбы са злачыннасцю. За час сустрэчы з насельніцтвам паступілі 32 пытанні і прапановы. На ўсе дадзены грунтоўныя адказы і кансультацыі.

У снежні 1999 года пры аддзеле па справах моладзі райвыканкама быў сфарміраваны аператыўны маладзёжны атрад дружыннікаў. Ён прызначаны ахоўваць правапарадак у час грамадскіх мерапрыемстваў, праводзіць прафілактыку правапарушэнняў і злачынстваў сярод падлеткаў і моладзі. Члены атрада дзяжураць у вячэрні час у раённым Цэнтры культуры, праводзяць рэйды праверак месцаў масавага збору падлеткаў., а таксама выхаваўчую работу з дзецьмі, якія схільныя да ўчынення правапарушэнняў і стаяць на ўліку ў інспекцыі. Праведзеная атрадам работа ўжо прыносіць станоўчыя вынікі.

На пасяджэннях камісіі па справах непаўналетніх, пасяджэннях раённага выканаўчага камітэта рэгулярна разглядаюцца пытанні аб стане работы і мерах па прафілактыцы правапарушэнняў і злачынстваў сярод непаўналетніх. Тут робяць справаздачы кіраўнікі праваахоўных органаў, аддзелаў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый.

Пры раённым выканаўчым камітэце пастаянна дзейнічае адміністрацыйная камісія. Яна разглядае правапарушэнні, якія ўчынены грамадзянамі ў сферы аховы працы і здароўя насельніцтва, навакольнага асяроддзя, сельскай гаспадаркі. Не застаюцца па-за ўвагай парушэнні санітарных норм і іншыя, што адносяцца да ліку адміністрацыйных. За 6 месяцаў года адміністрацыйная камісія разгледзела 348 пратаколаў аб адміністрацыйных парушэннях. Сума штрафаў парушальнікаў складае 457,2 тысячы рублёў.

Вырашэнню існуючай праблемы садзейнічаюць сродкі масавай інфармацыі. У раённай газеце “Голас Касцюкоўшчыны” ёсць пастаянная рубрыка “Падлетак і закон”. Пад ёй апублікавана за паўгоддзе 6 артыкулаў на прававую тэматыку. Аддзел інфармацыі райвыканкама вядзе рубрыку “Важна ведаць” па антынаркаманійнай і антыалкагольнай прапагандзе.

Праводзяцца нарады судовымі работнікамі. Разгледжаны пытанні аб умацаванні працоўнай дысцыпліны, аб выкананні закона аб зваротах грамадзян. Работнікі суда вядуць прыём грамадзян. Даюцца кансультацыі кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый па цікавячых пытаннях.

Важную ролю ў прафілактыцы правапарушэнняў адыгрываюць добраахвотныя народныя дружыны. Актыўна працуюць ДНД лясгаса, райпа. Яны ў час дзяжурства папярэдзілі шэраг злачынстваў і парушэнняў, прамаюць удзел у іх раскрыцці. Між іншым, яшчэ нямала добраахвотных дружын не ўключыліся ў праваахоўную дзейнасць. Неабходна ўзмацніць работу па кантролю за выкананнем графіка дзяжурства.

Каардынацыйны савет па прафілактыцы правапарушэнняў пастаянна аказвае дапамогу юрысконсультам прадпрыемстваў і арганізацый, арганізоўвае вучобу і семінары па павышэнню прававой культуры насельніцтва.

## Не толькі па тэме

З калектывам работнікаў райпаліклінікі сустрэўся загадчык аддзела інфармацыі райвыканкама Ігар Кавалёў.

Тэма Дня інфармавання, як звычайна, пашыраецца і пераходзіць на надзённыя пытанні. Само памяшканне раённай паліклінікі не рамантавалася ўжо 9 гадоў і яе работнікі прасілі мясцовае кіраўніцтва правесці хаця б касметычны рамонт. Паступіла і такое пытанне: “Чаму кошт хлебабулачных вырабаў не адпавядае іх якасці?” Некаторыя медыцынскія работнікі жывуць на вёсцы і іх, натуральна, цікавіла: ці будзе аказана дапамога ва ўборцы прысядзібных участкаў, чаму ў продаж рэдка паступаюць камбікармы (в. Канічы) і інш.

Паступіўшыя пытанні пастаўлены на кантроль, яны будуць вырашацца.

**Ул. інф.**

*Чалавек і яго справа*



Клімавіцкі саўгас-тэхнікум Алег Чукаў выбраў свядома, вучыўся з задавальненнем па спецыяльнасці тэхнік-механік. Да тэхнікі яго цягнула з маленства. Спачатку асвойваў веласіпед. Не раз прыходзілася разбіраць і збіраць двухколавую машыну. Калі гэта дасканала асвоіў, узяўся за мапед. Цікава ж, а што тут унутры?

Амаль увесь вольны час Алег праводзіў каля “жалезак”. А гэтаму таксама трэба было навучыцца.

Крок за крокам хлопец асвойваў самастойна ўсё, што яго цікавіла. Колькі было радасці, калі дзядзька яго браў з сабою ў кабіну трактара. Правы на кіраванне машынай Алег атрымаў у школе.

Пасля заканчэння тэхнікума А. Чукаў адразу паступіў у Беларускую сельгасакадэмію на завочнае аддзяленне. А на працу ўладкаваўся ў ПМК-260 тэхнікам-механікам. Затым яго пераводзяць механікам па выпуску аўтатранспарта, праз некаторы час – участковым механікам, потым – інжынерам па тэхніцы бяспекі руху.

Тры гады назад Алег атрымаў дыплом інжынера-механіка. Столькі ж ён працуе і галоўным механікам. Пасада вельмі адказная. Ёсць у Чукава яшчэ і дадатковыя абавязкі . Ён па сумяшчальніцтву — інжынер па тэхніцы бяспекі, загадчык склада. Самае важнае ў яго справе — бяспека людзей на рабочым месцы, і толькі тады можна думаць пра дастаўку запчастак. На сённяшні дзень гэта балючае пытанне. Тэхніка старая. Сярод новай – два трактары, якім па тры гады, ды “Газоны”, якім па сем гадоў, астатняй тэхніцы – па 10-15 гадоў.

— Складана, вядома ж, працаваць у такіх умовах, — заўважае Алег, — але ж можна.

Часта прыходзіцца ездзіць у камандзіроўку па ўсёй Беларусі, каб забяспечыць неабходнымі запчасткамі, тэхнікай ПМК. А запчасткі, безумоўна, патрэбны.

У калектыве ПМК-260 паважаюць Чукава. Кіраўніцтва калоны лічыць Алега Уладзіміравіча выканаўчым, добрасумленным работнікам.

Вадзіцелі ідуць да свайго галоўнага механіка не толькі, каб атрымаць недастаючую запчастку, а і параду. На ўсё гэта Чукаў знаходзіць час. І на тое, каб пасля работы, як у тым недалёкім юнацтве, заняцца рамонтам, толькі ўжо свайго старэнькага “Жыгулёнка”. І гэту тэхніку таксама хочацца ведаць дасканала.

Шляхам мэтанакіраванасці, цярпення, самастойнасці ідзе па жыцці гэты малады чалавек.

**На здымку: Алег ЧУКАЎ.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Да ўвагі суб'ектаў гаспадарання

5 чэрвеня 2000 года ў г. Маскве падпісана пагадненне паміж Расійскай і Беларускай чыгункамі аб грузавых тарыфах пры перавозках паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь. У выніку гэтага з 1 ліпеня 2000 года ў зносінах паміж Расіяй і Беларуссю ўстаноўлены значныя льготы па праваздной плаце на грузавыя перавозкі на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі.

Правазная плата зніжана на перавозку мэблі на 63 працэнты, запчастак – 53, сярэднетанажных і вялікагрузных кантэйнераў – 28, валакна – 25, солі тэхнічнай – 25, цукру – 25, шын – 25, цэменту – 25, зерня– 22, трактароў і запчастак – 20, будматэрыялаў – 19, калійных угнаенняў – на 13 працэнтаў.

**Валянціна КАВУНОВА,**
**намеснік старшыні райвыканкама.**

## Так трымаць, ветэраны!

Нядаўна ў горадзе Бабруйску на стадыёне “Спартак” прайшлі фінальныя спаборніцтвы рэспубліканскай спартакіяды работнікаў лясной гаспадаркі. За зборную каманду Магілёўскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання ў шматбор'і “Здароўе” выступілі прадстаўнікі Касцюковіцкага доследнага лясгаса галоўны ляснічы Уладзімір Елісеенка і намеснік дырэктара па інфармацыйнай рабоце Анатоль Бераснеў. Дарэчы, аб спартыўных здольнасцях Уладзіміра Аляксеевіча неадночы гаварылася на старонках раённай газеты. Ён з'яўляецца прыхільнікам як зімовых, так і летніх відаў спорту. Часта дабіваецца высокіх вынікаў. І тут Елісеенку спадарожнічаў поспех. Не адставаў ад яго і Анатоль Бераснёў.

У складзе каманды і ў рэспубліцы нашы прадстаўнікі занялі адпаведна 2 і 3 прызавыя месцы. Зборная каманда аб'яднання ў даным выглядзе спаборніцтваў прызнана пераможцай.

За зборную каманду аб'яднання па валейболу выступілі работнікі лясгаса Валерый Бараноўскі і Сяргей Післяко ў. Каманда заняла другое месца ў рэспубліцы.

Пераможцы заахвочаны каштоўнымі падарункамі, прызёры – дыпломамі ДСТ “Ураджай”. А таксама яны атрымалі шчырыя віншаванні сяброў і калег па працы.

**Уладзімір ТАРАКАНАЎ,**
**юрысконсульт лясгаса.**

Вопрос -- ответ

## Чтобы не разводиться дважды

**Слышала, что в новом Кодексе о браке и семье идет речь о том, что, начиная с сентября текущего года, расторжение брака будет осуществляться только судом?**

Прошел почти год с того момента, как вступил в силу новый Кодекс о браке и семье. Существенных изменений по вопросам регистрации актов гражданского состояния он не претерпел. Сегодня мне хотелось бы остановиться на тех новшествах, которые коснулись вопроса брака. Для расторжения брака введен только судебный порядок. При этом предусмотрено, что при приеме искового заявления суд предоставляет супругам, имеющим несовершеннолетних детей, трехмесячный срок на примирение и решение спорных вопросов. При рассмотрении иска суд может предоставить дополнительный срок до шести месяцев для обдумывания такого важного шага, как развод. Если брак без детей, то по обоюдному согласию супругов, он может быть расторгнут в течении месяца. Но когда уж вынесено решение о расторжении брака, идти в отдел ЗАГС за получением свидетельства не потребуется. Штамп в паспорт о разводе ставят в суде после уплаты государственной пошлины. Этим же решением оговаривается вопрос изменения фамилии. Если супруга решает вернуть добрачную фамилию, она указывает это в заявлении.

Хочется напомнить всем читателям, что, все решения суда, которые вынесены до 1 сентября 1999 года, подлежат исполнению до 31 августа текущего года. Если суд рассматривал вопросы расторжения брака до 1 сентября 1999 года, но оформить в ЗАГСе развод не спешили, торопитесь, с 1 сентября 2000 года прежнее решение суда утрачивает силу, и надо будет снова обращаться в суд по вопросу расторжения брака.

**Тамара САВИНЕЦ,**
**заведующая отделом ЗАГС райисполкома.**

*Актуальнае інтэрв'ю*

# Колькі каштуе бохан хлеба?

Наведаўшы магазіны ў мінулую сераду, пакупнікі заўважылі, што бохан хлеба каштуе ўжо 368 рублёў.

– З чым гэта звязана? -- Наш карэспандэнт запыталася ў дырэктара хлебазавода **Леаніды Цімафееўны Смолінай.**

— Навіна аб росце цэн на хлеб для нас таксама непрыемная. Аднак ад пекараў тут мала што залежыць. Напярэдадні гэтых змен мы атрымалі рашэнне абласной камісіі па цэнах. У ім гаворыцца, што, улічваючы крайне цяжкі фінансавы стан мукамольнай прамысловасці, у сувязі з адсутнасцю ўласнага зерня ў вобласці і поўнай закупкай яго за межамі Рэспублікі Беларусь, пастаянным ростам курса долара ЗША, а таксама ў мэтах скарачэння стратнасці вытворчасці мукі для хлебапячэння і недапушчэння перабояў у забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання, павялічыць адпускныя цэны на муку для хлебапячэння і іншых відаў выпускаемай прадукцыі. Вынік такога рашэння заўважылі ўсе.

**— Леаніда Цімафееўна, а наколькі ўзраслі цэны на муку?**

— Заўважу, што не на ўсе гатункі мукі аднолькава выраслі цэны. Напрыклад, на жытнюю сеяную цэны павялічаны ў 2 разы, жытнюю абдзірную – на 84,6 працэнта, а на пшанічную вышэйшага гатунку – на 10,5 працэнта, першага – на 8,9, другога гатунку – на 11,8 працэнта. На нашым жа заводзе выпякаецца хлеб з утрыманнем 80-90 працэнтаў жытняй мукі. Як вынік, узрасла цана на хлеб на 45-50 працэнтаў.

**— Наколькі выгадна павелічэнне цаны на хлеб прадпрыемству?**

— Ад гэтага не атрымліваем ні маральнага задавальнення, а, наадварот, узрастае складанасць, ні выгады ніякай. Справа ў тым, што хлеб становіцца даражэй, калі ўзрастае цана толькі на муку. Для выпечкі ж яго неабходны і іншыя састаўныя, а на іх таксама расце цана, што не адбіваецца на кошце прадукцыі. Рэнтабельнасці ніякай. Таму і прыбытку чакаць не даводзіцца. Дрэнна і тое, што з ростам цэн на хлеб рэзка ўпадзе аб'ём заказаў на прадукцыю, што таксама ставіць прадпрыемства ў складанае становішча.

**— Ці будуць прымацца вамі нейкія меры, каб аблегчыць долю пакупніка?**

— Цяпер плануем пачаць выпечку новых гатункаў хлеба, дзе ўтрыманне жытняй мукі па тэхналогіі меншае, а пшанічнай – большае. Аднак гэты варыянт таксама доўга не праслужыць, бо і пшаніца можа стаць дэфіцытам. Яе ўсё роўна будуць купляць за межамі краіны. Таму, мяркуйце самі, суцяшальнага нічога сказаць не магу.

**— Дзякуй за размову.**

**Гутарыла Наталля КАВАЛЁВА.**

Ад рэдакцыі: **Пакуль нумар рыхтаваўся да друку, у аблвыканкаме было прынята рашэнне аб зніжэнні цэн на муку. Цяпер кілаграм жытняй абдзірнай каштуе не 240, як вышэй паведамлялася, а 176 рублёў, жытняй сеянай не 380, а 240 рублёў за кілаграм. Адпаведна знізіўся і кошт хлеба. Цяпер бохан яго каштуе 300 рублёў.**

*Фотарэпартаж*

# І першы крык, і першае дыханне





Пераапрануўшыся ў белыя халаты, якія выдала нам сястра-гаспадыня, з дазволу мы пераступілі парог радзільнага аддзялення раённай бальніцы. Было неяк незвычайна ціха, нават падумалася, што тут няма і пацыентаў. Аднак нашы сумненні развеяла акушэрка Валянціна Васільеўна Фешчанка.

— Зараз у нас у аддзяленні 6 парадзіх і столькі ж немаўлятак, — сказала яна. – Тры дзяўчынкі і тры хлопчыкі.

Усе малыя спакойна спалі каля сваіх маці пасля чарговага кармлення. Самай малодшанькай з немаўлятак не было яшчэ і сутак – яна нарадзілася ў гэты ж дзень. Шчаслівая маці, а гэта была Таццяна Юдзянкова, таксама адпачывала. Роды прайшлі добра, без ускладненняў. Гэта першае дзіцяці ў Таццяны з мужам і яны вельмі задаволены, што нарадзілася дзяўчынка.

Заглянулі мы і ў дзіцячы пакой. Медсястра Таццяна Руднік ужо ўкладвала малышоў у свае ложкі. Тут светла і чыста. Ёсць неабходнае медабсталяванне: апарат для адсмоктвання слізі і ажыўлення дзяцей “Пенлон”, падключаны кісларод.

Вядома, такога абсталявання, як, напрыклад, у абласных бальніцах, тут няма, бо няма і ўмоў. Радзільнаму дому – гадоў не злічыць. Таму цяжарных жанчын, у якіх выяўляецца нейкая паталогія, накіроўваюць у Магілёў.

Сваёй аперацыйнай тут няма, і ў экстрэмальных выпадках прыходзіцца несці жанчыну ў хірургічнае аддзяленне, а затым назад у радзільнае.

Разлічана радзільнае аддзяленне на 15 ложка-месц. На сёння гэта задавальняе попыт. Бо, як сказалі ў раддоме, нараджальнасць падае з кожным годам. Калі ў 1999 годзе на свет з'явілася 258 немаўлят, то ў гэтым за сем месяцаў – 124.

Вядома, звязана гэта напрамую з сацыяльна-эканамічным становішчам у краіне.

А вось чаго ў раддоме ў дастатку, дык гэта ўвагі! І да парадзіх, і да дзяцей. Як з боку сярэдняга медыцынскага персаналу, так і ўрачоў. Працяглы час урачом-педыятрам у радзільным аддзяленні працуе Вольга Сяргееўна Віталёва, якая з першых жа хвілін нараджэння дзіця назірае за яго здароўем. Яна вопытны спецыяліст.

А маці немаўлят заўсёды акажуць неабходную дапамогу ўрачы-гінеколагі Святлана Якаўлеўна Лаўрыновіч, Іна Паўлаўна Сямашка.

15 чалавек працуюць у гэтым аддзяленні, улічваючы двух урачоў – дзіцячага і акушэра-гінеколага. Калектыў, як сказала ў размове з намі старшая медсястра радзільнага дома і гінекалогіі Вольга Лебедзева, у асноўным малады, але добры, дружны, усе добрасумленна адносяцца да сваіх абавязкаў. Самая старэйшая тут В. В. Фешчанка – акушэрка з першай катэгорыяй. У той дзень якраз была яе змена.

У 1972 годзе пасля заканчэння Магілёўскага медвучылішча прыйшла Валянціна Васільеўна працаваць сюды. І вось ужо 28 гадоў дапамагае з'яўляцца на свет маленькім істотам. Менавіта акушэрка першай прымае ў свае рукі маленькі камячок, удыхае ў яго жыццё. А колькі іх было на яе ліку: і дзяўчынак, і хлопчыкаў, ужо і не злічыць! Валянціна Васільеўна – вопытная акушэрка. Яна не толькі як след прымае роды ў жанчын, робіць неабходныя ін'екцыі, а дае парады, кансультацыі парадзіхам, вучыць таксама маладых акушэрак.

Усялякага было за час яе работы ў радзільным аддзяленні. Здараліся выпадкі, калі сапраўды браў страх, не за сябе, а за парадзіху. Але акушэрка не страчвала пачуцця самавалодання. Такі выпадак адбыўся і зусім нядаўна. У парадзіхі быў вялікі таксікоз. На ногі, як кажуць, паднялі ўрачоў. Рабілі кесарава сячэнне.

Бывалі і кур'ёзныя выпадкі, калі ў аддзяленне паступалі жанчыны ў нецвярозым стане, закатвалі істэрыку. Трэба было супакойваць, угаворваць.

Увогуле ж, Валянціна Васільеўна задаволена, што менавіта гэту прафесію выбрала для сябе і ўжо не памяняла б яе ні на якую іншую. Аднойчы, калі ў самой было маленькае дзіця, і не было на каго яго пакінуць, хацела разлічыцца з работы. Але калектыў пайшоў ёй насустрач – Валянціне далі магчымасць працаваць толькі ўдзень. І яна заўсёды будзе ўдзячна гэтым людзям.

З акушэрак старэйшай лічыцца і Надзея Іванаўна Янушанцава, якая працуе тут з 1982 года. Мае першую катэгорыю і, вядома ж, вопыт, уменне. З больш маладых тут акушэрка Вольга Краўцова, але і яна таксама мае першую катэгорыю.

У дзіцячай палаце працуюць чатыры маладыя медсястры – Святлана Міхеева, Святлана Нагін, Таццяна Руднік і Людміла Белая.

У час нашага наведвання на змене была Таццяна Руднік. У радзільным аддзяленні яна толькі паўтара года. А да гэтага была 8 гадоў медсястрой тэрапеўтычнага кабінета райпаліклінікі. Таццяна не шкадуе, што перайшла сюды. Работа ёй падабаецца, хаця і вельмі адказная. Усё ж на руках немаўляткі, якія яшчэ не скажуць і не паскардзяцца, дзе і што баліць. Трэба валодаць асаблівым пачуццём, інтуіцыяй.

Умела і хутка праводзіць Таццяна працэдуры, якія назначае ўрач-педыятр, спавівае дзяцей.

Шмат службовых абавязкаў у старшай медсястры Вольгі Лебедзевай. Тры гады, як яна на гэтай пасадзе. Да гэтага ж працавала медсястрой дзіцячай палаты раддома. У яе абавязкі ўваходзіць шмат што: гэта выпіска медыкаментаў з аптэкі і раздача іх на пасты, складанне гафікаў работы, выпіска бальнічных лістоў, даведак і інш, а, галоўнае – захаванне санітарна-эпідэміялагічнага рэжыму ў аддзяленні. Чысціня, стэрыльнасць – асноўны атрыбут тут.

Нягледзячы на ўзрост, на невялікі яшчэ стаж работы, Вольга Лебедзева паспяхова спраўляецца са сваімі абавязкамі.

Значная заслуга ў тым, што чысціня і парадак пануюць у аддзяленні, санітаркі Валянціны Маісеенка. З 1992 года працуе яна тут, да гэтага ж была таксама санітаркай у былой Саматэвіцкай бальніцы. А як перасялілі жыхароў у пасёлак Ліпаўка, уладкавалася ў раддом. Спакойная і ўраўнаважаная, яна добрасумленна робіць сваю справу.

А каб ва ўсіх былі чыстыя халаты, каб у аддзяленні заўсёды меліся чысцячыя сродкі, каб і пасцельныя рэчы былі ў пацыентаў добрыя, за гэтым сочыць сястра-гаспадыня Алена Платонава. На гэтай пасадзе яна не так даўно, але ўжо зарэкамендавала сябе з добрага боку.

Усе разам гэтыя жанчыны робяць добрую і патрэбную справу: дапамагаюць з'яўляцца на свет новым жыхарам нашага раёна.



**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

**На здымках: шчаслівая маці Таццяна ЮДЗЯНКОВА; здароўе парадзіхі ў полі зроку акушэркі Валянціны ФЕШЧАНКА; сястра-гаспадыня Алена ПЛАТОНАВА і санітарка Валянціна МАІСЕЕНКА.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

*У Камітэце дзяржаўнага кантролю*

# Аб выніках знешнеэканамічнай дзейнасці

При выбарачнай праверцы асобных пытанняў знешнеэканамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання вобласці Камітэтам дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці ўстаноўлены шматлікія факты парушэнняў Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і аб павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці” і “Аб удасканальванні парадку правядзення і кантролю знешнегандлёвых аперацый”. Па экспартных кантрактах недавернута экспартнай выручкі 800 тысяч долараў ЗША, апрача таго, устаноўлены факты паступлення замежнай валюты з перавышэннем устаноўленага заканадаўствам тэрміна – МПО “Хімвалакно”, ЗАО швейная фабрыка “АКМО” і інш.

Шмат недахопаў у рабоце прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур пры рэгістрацыі экспартных і імпартных статыстычных дэкларацый. Пры змяненні ўмоў кантрактаў не афармляюцца новыя пашпарты здзелак, не вытрымліваюцца ўстаноўленыя тэрміны рэгістрацыі.

У выніку праверкі ажыццяўлення абавязковага продажу сродкаў ААТ “Беларуская валютна-фондавая біржа” на шэрагу прадпрыемстваў устаноўлены факты парушэнняў Указа Прэзідэнта “Аб удасканальванні парадку абавязковага продажу замежнай валюты”.

Дапускаюцца шматлікія парушэнні пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь “Аб пытаннях цэнаўтварэння пры правядзенні тавараабменных аперацый” у ААТ “Масласырбаза”, ААТ “Магілёўхлебапрадукт” і інш.

Прадпрыемствамі, арганізацыямі і камерцыйнымі структурамі часта парушаецца Закон “Аб дзяржаўнай статыстыцы” — не даецца або даецца недакладная інфармацыя органам дзяржаўнай статыстыкі аб знешне-гандлёвай дзейнасці па формах статыстычнай справаздачнасці № 2 ВЭС “Справаздача аб экспарце (імпарце) тавараў з дзяржавамі – членамі мытнага саюза”, № 3 ВЭС “Справаздача аб экспарце (імпарце) паслуг па знешне-эканамічнай дзейнасці”. Сярод такіх прадпрыемствы ААТ “Горка”, саўгас-камбінат “Усход” і інш.

Асноўныя прычыны, у выніку якіх парушана заканадаўства па знешне-эканамічнай дзейнасці: недастатковая работа кіраўніцтва прадпрыемстваў і падпарадкаваных ім служб па вывучэнню і правільнаму выбару гандлёвых партнёраў, асабліва камерцыйных структур Расійскай Федэрацыі і Украіны; слабае веданне кіраўнікамі, галоўнымі бухгалтарамі, спецыялістамі суб'ектаў гаспадарання заканадаўства, якое рэгламентуе ажыццяўленне знешне-эканамічнай дзейнасці і валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь; непрыняцце мер кіраўнікамі прадпрыемстваў па вяртанню экспартнай выручкі, адсутнасць кантролю ў гэтым пытанні за дзейнасцю адпаведных служб.

Па розных прычынах не прад'яўляюцца прэтэнзіі і не перадаюцца іскі па кампенсацыі страт у судовыя інстанцыі. На прадпрыемствах вобласці недастаткова арганізавана работа маркетынгавых служб па вывучэнню рынкаў збыту гатовай прадукцыі і набыццю сыравіны і камплектуючых для яе вытворчасці. У выніку гэтага, тавар рэалізуецца на экспарт праз шматлікія камерцыйныя структуры, у якіх і асядае валютная выручка, а прадпрыемствы-вытворцы застаюцца без неабходных валютных сродкаў.

(Працяг на 4-й стар.)

# Аб выніках знешнеэканамічнай дзейнасці

( Заканчэнне. Пачатак на 3 стар.)

За 6 месяцаў г.г. за выяўленыя парушэнні ў сферы знешнеэканамічнай дзейнасці прыменена эканамічных санкцый на суму 352,5 млн. руб., спагнана 55,8 млн. рублёў, прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 24 чалавекі на суму 463 тыс. руб.

Упраўленне валютнага кантролю і ВЭД сумесна з аддзелам ВЭС аблвыканкама ажыццяўляюць кантроль за ходам выканання Дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчэння, распрацаванай у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 кастрычніка 1996 года. У гэтую праграму ўключана 8 прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці, у той час як імпартуюць прадукцыю больш 60 прадпрыемстваў вобласці. Апрача таго, выпалі з дадзенай праграмы прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці. Вывучэнне выканання дадзенай праграмы паказала, што не ўсе праекты былі рэалізаваны ў поўным аб'ёме. Адной з прычын з'явілася адсутнасць дадатковага фінансавання з рэспубліканскага бюджэта.

Зараз аблвыканкамам распрацоўваюцца прапановы ў Праект Дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчэння на 2001 год. Аднак ні адзін райвыканкам не даў сваіх прапаноў у дадзены Праект, спасылаючыся пры гэтым на той факт, што рэалізацыя папярэдніх праектаў праводзілася са сродкаў капітальных укладанняў прадпрыемстваў. У сувязі з гэтым варта звярнуць увагу адпаведных служб гарадскіх, раённых выканкамаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў на дэталёвае вывучэнне рацыяналізацыі імпарту ў маштабах сваіх рэгіёнаў, прадпрыемстваў, уключыць дадзенае пытанне ў мерапрыемствы па стабілізацыі фінансава-эканамічнага становішча.

Камітэтам дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці сумесна з праваахоўнымі органамі праводзіцца работа па выкананню патрабаванняў Дэкрэта Прэзідэнта "Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый".За студзень-чэрвень г.г. праведзена 1970 рэйдаў-праверак, складзена 982 адміністрацыйныя пратаколы, канфіскавана 48959 долараў ЗША, 1640 нямецкіх марак, 70,4 тыс. расійскіх рублёў, 14685 тыс. беларускіх рублёў. Канфіскаваная валюта ў беларускіх рублях па курсу Нацбанка на дзень канфіскацыі склала 44586 тыс. рублёў. На 226 чалавек накладзены адміністрацыйны штраф на 14741,7 тыс. рублёў. Спагнана адміністрацыйных штрафаў на суму 6823 тыс. рублёў. На 445 грамадзян накладзены адміністрацыйны арышт. Узбуджана 29 спраў па арт. 85-1 Крымінальнага Кодэкса РБ.

Супрацоўнікамі УГКФР па Магілёўскай вобласці 13 чэрвеня 2000 года каля в. Паўлаўка Магілёўскага раёна пасля здзяйснення акта куплі-продажы 300 электрабытавых помпаў "Ручаёк" за долары ЗША былі затрыманы жыхар г. Магілёва І. Л. Кавалёў і жыхар г. Барысава А. А. Грынь. У адносінах апошніх складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне п. 2.1 Дэкрэта Прэзідэнта № 1 ад 5 ліпеня 1997 года. Рашэннем суда Магілёўскага раёна І. Кавалёў арыштаваны тэрмінам на 8 сутак з канфіскацыяй 3025 долараў ЗША. На А. Грыня накладзены адміністрацыйны штраф у размеры 260 тыс. рублёў з канфіскацыяй 57 долараў ЗША, 9,4 тыс. беларускіх рублёў, а таксама з канфіскацыяй 300 электрапомпаў "Ручаёк" на суму 4,2 млн. рублёў.

Камітэт дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці прапаноўвае прыняць меры па паляпшэнню работы служб райвыканкамаў, якія займаюцца пытаннямі знешнеэканамічнай дзейнасці, а таксама адпаведных служб на прадпрыемствах і інфармаваць праз сродкі масавай інфармацыі аб мерах адказнасці за парушэнне патрабаванняў Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый"

**Камітэт дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці.**



## Поздравляем!

*Горячо и сердечно поздравляем с Днем строителя коллективы Белорусского цементного завода, ПМК-260, треста № 10, заместителя председателя райисполкома по капитальному строительству Г. И. Пискунова*

*Няхай заўсёды ў вашых хатах*
*Пануюць радасць і дастатак,*
*А на жыццёвых вашых сцежках –*
*Удача, шчасце і ўсмешкі.*
*Хай будуць светлымі світанні,*
*Заўжды шанцуе ў каханні,*
*Вам зычым поспехаў бясконца,*
*Здароўя моцнага і сонца.*

***Дирекция, профсоюзный комитет БЦЗ.***

х х х

*Сердечно поздравляем с днём рождения*

***ФИЛИМОНЕНКО***
***Николая Николаевича***

*Желаем в жизни лишь удачи*
*И достижения мечты,*
*Пусть будут лёгкими задачи*
*На трудном жизненном пути.*
*Будь молодым, всегда красивым,*
*Желанным, добрым и простым,*
*Всегда приветливым и милым,*
*Всегда любимым, дорогим.*

***Мама, Наташа, Вася.***

х х х

*От всего сердца поздравляем с днём рождения дорогую жену, мамочку, бабушку*

***САЗОНОВУ***
***Раису Ивановну***

*От всей души желаем счастья,*
*Желаем радости большой.*
*И пусть минуют все ненастья,*
*Пройдут обиды стороной.*
*И пусть здоровье будет крепким,*
*А сердце – вечно молодым,*
*Пусть каждый день твой будет светлым,*
*Улыбка в дом приходит с ним.*

***Муж, дети, внуки.***

## Могилевское профтехучилище

*проводит прием учащихся по профессиям:*

**продавец продовольственных товаров,**
**продавец непродовольственных товаров,**
**официант-буфетчик.**

Учащимся предоставляется общежитие, выплачивается стипендия.

**Адрес училища: г. Могилев, Минское шоссе, 22.**

**ПРАВЛЕНИЕ РАЙПО.**

Работа аперупаўнаважанага крымінальнага вышуку Аляксандра Арцёменкі – гэта няспынны пошук. Пастаянна прыходзіцца кагосьці шукаць, расследаваць злачынствы. І тут патрэбны не толькі інтуіцыя, ініцыятыўнасць, а і ўменне, падыход да людзей, сведкаў. Нездарма Аляксандр лічыць галоўным у сваёй рабоце – зносіны з людзьмі.

Паступіла заява ад грамадзяніна горада аб крадзяжы рэчаў з яго дому. Група супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, у ліку якой і А. Арцёменка, выехалі на месца. Пагаварылі з людзьмі, суседзямі і хутка выйшлі на тых, хто гэта зрабіў.

Хутка быў раскрыты і крадзёж двух бычкоў у калгасе "Парыжская камуна", злодзеем якіх з'явіўся сам вартаўнік-пастух.

І такіх фактаў на ліку Аляксандра ўжо шмат. З 25 злачынстваў раскрыта 19.

Прафесію сабе хлопец выбраў свядома, яна яму падабаецца. Пэўную ролю, відаць, усё ж сыграў дзед Аляксандра У. П. Кузьмянкоў, які праслужыў у органах міліцыі 29 гадоў і быў у ліку лепшых работнікаў.

Пасля школы Саша паступіў у Магілёўскую школу міліцыі. Практыку праходзіў тут жа, у Касцюковіцкім РАУС і паказаў сябе з лепшага боку. А пасля заканчэння школы Аляксандра адразу ж узялі ў аддзяленне крымінальнага вышуку. Прайшоў толькі год, а добрых спраў у аперупаўнаважанага ўжо шмат. Ён дэманструе прыклады высокай адказнасці і дысцыплінаванасці. А што датычыць прафесійных задаў, над іх удасканаленнем ён увесь час працуе. І ў гэтым яму дапамагаюць старэйшыя таварышы па рабоце.




**На здымку: Аляксандр АРЦЁМЕНКА.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# Спыніся, імгненне!

## *У раённым краязнаўчым музеі адкрыта персанальная фотавыстаўка нашага земляка Дзмітрыя Пячкоўскага*

Дзмітрый Пячкоўскі жыве ў Данецку, але штогод наведвае сваю малую радзіму — вёску Крывая Ніва. Тут ён, па яго словах, адпачывае ўсёй душой, асабліва, калі збіраюцца вясковыя грамадой з розных куткоў і куточкаў былога неабсяжнага Саюза. Такія сустрэчы, на Дзень Перамогі, сталі, мала сказаць, традыцыйнымі, хутчэй абавязковымі. Калі нехта не прыедзе на Радаўніцу, то крываніўцы лічаць, што захварэў, іншая прычына да ўвагі не прымаецца. Вёска ў такі час ажывае. Прыезджыя не толькі гасцююць, а і дапамагаюць сваім родзічам па гаспадарцы, управіцца з сяўбой агародаў. А пасля працы ажывае Склязнёўскі сад – любімае месца адпачынку моладзі пасляваенных гадоў. Пад шатамі векавых ліп наладжваліся танцы. Працаваў "пятачок" у выхадныя і святочныя дні, у час провадаў у армію, вяселляў. У музыкантах і арганізатарах розных вечарын недахопу не бывае. Сам Дзмітрый Васільевіч іграе на скрыпцы, баяне, гармоніку, някепска спявае.

Багатае на прыродную прыгажосць і наваколле. Гэта выкарыстоўвае ў сваіх фотаздымках Пячкоўскі. Калі знаёмішся з работамі майстра фотасправы, проста не рызыкнеш сказаць, што яму больш удаецца: пейзажныя або партрэтныя здымкі. Хутчэй за ўсё, народні. Разнастайная і тэматыка.

Ва ўсім сказаным можна пераканацца, наведаўшы персанальную выстаўку Пячкоўскага, якую арганізавалі работнікі краязнаўчага музея. Больш як 50 работ выстаўлена на ёй, прычым, на любы густ. Дзяцей зацікавяць здымкі жывёлін і птушак, дарослых – больш сур'ёзныя тэмы — чарнобыльская, партрэты людзей працы. Ёсць і гумарыстычныя. Словам, у рэкламе фотаздымкі Д. Пячкоўскага патрэбы не маюць. З некаторымі з іх нашы чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца на старонках раённай газеты, рэспубліканскіх перыядычных выданняў, а ў мінулым годзе Пячкоўскі стаў пераможцам конкурсу газеты "Рэспубліка". Ён таксама ўдзельнічаў у конкурсе газеты "Правда", здымаў М. Гарбачова ў час наведвання ім Касцюкоўшчыны, Прэзідэнта Украіны Л. Кучму. Па заданню газеты "Труд", дзе ён з'яўляецца загадчыкам грамадскай прыёмнай, здымаў белых мядзведзяў. Быў на радзіме Льва Талстога, Тараса Шаўчэнкі, іншых вядомых дзеячаў культуры і мастацтва.

Выстава добра аформлена – пастараліся работнікі музея размясціць здымкі па тэмах, зрабіць для іх трапныя надпісы. Прыходзьце і ўсё гэта ўбачыце ўласнымі вачыма.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

# Колькі чакаць аўтобус?

Часта даводзіцца бачыць, як на гарадскіх аўтобусных прыпынках сядзяць людзі, чакаюць чарговага рэйса аўтобуса. Калі ён прыедзе, ніхто не ведае. Бо на прыпынках няма раскладу руху аўтобусаў.

Нядаўна я чакала аўтобус на Слабаду на прыпынку каля магазіна "Оптыка". Ведаю, што прыбывае ён сюды пасля 8 гадзін раніцы. Доўга сядзела з надзеяй паехаць, аднак падышла жанчына і паведаміла, што аўтобус цяпер прыходзіць раней 8 гадзін раніцы. Няўжо аб змене раскладу руху аўтобусаў нельга своечасова паведаміць праз друк ці напісаць аб'явы на прыпынках?

**Марыя ГІРКІНА, пенсіянерка г. Касцюковічы.**

## *Вниманию родителей!*

На базе СШ № 3 с 1 сентября открывается 10-й лицейский класс химико-математического профиля. Принимаются учащиеся школ района, имеющие в свидетельстве за 9 классов оценки по профилирующим предметам (химия, биология, математика, информатика, физика) не ниже "4".

Заявления принимаются до 25 августа с.г. При приеме проводится собеседование по профилирующим предметам.

**АДМИНИСТРАЦИЯ СШ № 3.**

## *Отделу культуры*

на постоянную работу требуются:

начальник хозгруппы,
художник-оформитель,
водитель.

**Телефоны для справок: 23-3-77, 21-558.**

**АДМИНИСТРАЦИЯ.**

СЧИТАТЬ НЕДЕЙСТВИТЕЛЬНЫМ военный билет на имя **ЩУРО Владимира Николаевича.**

**ПРОДАЮ**

3-х комнатную квартиру, недорого. Тел.: 51-3-49, в любое время.

**Х Х Х**

приватизированную 2-х комнатную квартиру на м-не "Молодежный" или меняю на 1-комнатную в г. Могилеве. Тел. в г. Могилеве: 42-06-17, в любое время.

**Х Х Х**

жеребёнку 2-х лет. Тел.: 25-3-50, д. Боровка.

**ПРОДАЮ**

срочно 2-х комнатную приватизированную, благоустроенную квартиру в м-не "Молодежный". Тел.: 52-0-96, в любое время.

**Х Х Х**

гараж по пер. Интернациональный, автомашину "Фольксваген Пассат". Тел.: 23-2-62.

**Калектыў работнікаў культуры і прафсаюзны камітэт аддзела культуры выказваюць глыбокае спачуванне КАМЫШАВАЙ Святлане Іванаўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў работнікаў культуры і прафсаюзны камітэт аддзела культуры глыбока смуткуюць з выпадку смерці былой загадчыцы Каніцкага сельскага клуба ТРАЦЦЯКОВАЙ Разаліі Іванаўны і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Калектыў станцыі дзіцячага турызму і краязнаўства глыбока смуткуе з прычыны дачаснай смерці ШУНЬКІНА Фёдара Максімавіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Калектыў работнікаў філіяла № 712 ААТ "Беларусбанк" выказвае глыбокае спачуванне БАРЫСЕНКА Ніне Міхайлаўне з выпадку смерці БАЦЬКІ.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 15. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 63*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.